# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36(497) | ГОД X | 5 ВЕРАСНЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.

Дзеці найважнейшыя

# Я СУПРОЦЬ ПАКОЯЎ

У народзе ішлі расказы аб «панскіх пакоях» — з падлогамі бы люстра, з заморскімі кветкамі, з мяккімі крэсламі. «Панскія пакоі» ў палацах сталіся ўзорам і вяршыняй заможнасці ды жыццёвай раскошнасці. З часам паявіліся на свеце багатыя рамеснікі, купцы і фабрыканты, якія раўняліся да паноў. У іх пакоях знаходзілася ўсё найдаражэйшае, напаказ гасцям. Калі раз'язджаліся госці, пакой быў старанліва прыбраны і рэдка хто з сям'і заходзіў да яго.

Прапалі ў нас паны, купцы, фабрыканты. Але іх жыццё напаказ, іх пакоі засталіся ўзорам таварыскага жыцця для багацеючага люду. У местачковых Крынках, у Дзяніcках, Праневічах або ў Вольцы Нурэцкай у хатах, нават з саламянымі стрэхамі, паявіліся пакоі з блішчастымі люстранымі шафамі, з фарніраванымі сталамі і завалістымі канапамі-версалькамі. (Версаль — славуты палац французскіх каралёў). Тут размаляваныя дываны, ад якіх рабаціць у вачах; тут бібліятэчкі з кніжкамі, якіх ніхто не чытае; тут вокны застаўлены заморскімі кветкамі, ад якіх робіцца цёмна ў пакоі. У пакоі ўсё тое, што найбольш каштуе, усё напаказ суседзям, сваякам, кавалерам. Гаспадыня сцеражэ пакоя, ён павінен славіць яе дбайнасць і багацце. Гэта «слава» шмат каштуе не толькі грошай. «Слаўны» пакой забірае найбольшае месца ў хаце і чыніць у ёй цеснату.

Ці патрэбны такі біткам набіты мэбляю пакой, які не прыносіць ані раскошы, ані выгоды?

### УСЁ ДЗЕЦЯМ.

Дзеці — гэта сэнс сям'і.

Аднак часта-густа бацькі трактуюць дзяцей як саранчу, якая ў кожную хвіліну гатова знішчыць пакой. Дзеці бываюць у ім чатыры—шэсць разоў у год — на Каляды, Вялікдзень, Сёмуху, Зельную — у час вялікіх гасцін. Школьныя задачы адрабляюць, пераважна, на застаўленым пасудаю кухонным стале. Сядзяць або стаяць на каленях — на табурэтках — згорбленыя «ў дзве напасці», пішуць і вучацца чытанак ды пры аказіі слухаюць размоў дарослых. Пакой — для іх забароненая зона. Бо ў ім, не дай Божа, яны могуць абцасамі пабіць фарнір, пазгортваць ходнікі, папляміць стол. **Пакой і госці важнейшыя нам, чым выгода і выхаванне дзяцей.**

Кожнае дзіця надта хоча быць самастойным, мець свае рэчы, свой кут, свае планы. А мы, бацькі, ганяючы іх з месца на месца, гэтым самым выганяем на вуліцу, пакідаем іх свайму лёсу. Дайце ім «свой» столік для вучобы, асобную шафачку на кніжкі і школьныя прылады. Бацька хай зробіць уласным промыслам маленькую майстэрню, у якой сын ці дачка, адрабіўшы ўрокі, будзе майстраваць — штосьці рабіць, шыць, будаваць ракеты. Хай памайструе сабе і развівае здольнасці.

Дзіцячы характар вельмі таварыскі, сяброўскі. Калі дзіця бачыць, што бацькі памагаюць яму майстраваць, дык яно не адмовіцца памагаць маме, тату ў іх працы — прыбраць хату, памыць пасуду, замесці панадворак, прынесці патрэбную рэч.

Дапамога маці ці бацькі не павінна абмяжоўвацца толькі да стварэння свайму сынку (дочаньцы) добрых абставін для майстравання і гульні. Неабходна пакіраваць ім так, каб ён (яна) зацікавілася карыснай гульнёю, майстраваннем, напрыклад, вырабам усялякіх дробязей патрэбных у хатняй гаспадарцы (скрыначак, каробачак, хвартушкоў, вышыванак).

Так зацікаўленае дзіця ўбачыць карысць таго, чаго вучаць у школе. Прадмет арыфметыкі дазволіць яму зразумець «мову» сантыметра і значэнне розных мерак; прадмет беларускай ці польскай мовы дазволіць яму зразумець, дзе і якім колерам нітак трэ' вышываць знойдзены ў часопісе ўзор і т.п. Абыйсціся без маміная ласкі, гэта ўжо самастойнасць, да якой яно заўжды імкнецца.

(Працяг на стар. 5)

# Уручэнне ўзнагарод дзеячам нацыянальных таварыстваў

Як мы ўжо інфармавалі, 30 ліпеня г.г. указам Савета Дзяржавы ПНР вялікая група дзеячаў нацыянальных таварыстваў узнагароджана высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі. З дзеячаў БГКТ узнагароджана: Крыжам Кавалерскім Ордэна Адраджэння Польшчы члена ГП БГКТ Васіля Дзуна. Залатымі Крыжамі Заслугі — старшыню ГП БГКТ Міхася Хмялеўскага, сакратара ГП БГКТ Уладзіміра Юзвюка, члена ГП БГКТ, старшыню Беластоцкага (павет) аддзела Янку Азяблу і актывіста Бельскага аддзела Арцёма Чыквіна. Сярэбранымі Крыжамі Заслугі — члена Прэзідыума ГП БГКТ, галоўнага рэдактара «Нівы» Георгія Валкавыцкага, члена ГП БГКТ, інструктара ГП пры Варшаўскім аддзеле Віктара Шведа, інструктара ГП пры Сямяціцкім аддзеле Міхася Вішэнку і актывіста Сакольскага аддзела Янку Аляксеюка.

Урачыстае ўручэнне ўзнагарод адбылося 31 ліпеня ў Міністэрстве унутраных спраў. У прысутнасці членаў Нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП узнагароды ўручыў старшыня Нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП віцэ-міністр Зыгфрыд Шнэк.

На нашым здымку паказана група ўзнагароджаных дзеячаў БГКТ з віцэ-міністрам Зыгфрыдам Шнэкам пасля атрымання ўзнагарод. Стаяць (злева направа): Арцём Чыквін, Янка Азябла, Васіль Дзун, член Нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП, Ян Кэндзерскі, віцэ-міністр Зыгфрыд Шнэк, Міхась Хмялеўскі, член Нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП, дырэктар дэпартамента Міністэрства культуры Чэслаў Калужны і Георгі Валкавыцкі.

# СЯЛЯНСКІ КАНСЕРВАТЫЗМ

Часта гаворыцца аб кансерватызме сялянства, аб іх прывязанасці да старых поглядаў, старых форм гаспадарання, што неаднойчы перашкаджае ўвядзенню сучасных навінак у сялянскае жыццё. Рэдка аднак здаецца сабе справу з эканамічных і псіхалагічных прычын сялянскага кансерватызму і з унутранай складанасці дарогі, якою ўваходзіць тэхнічны працэс у вёску.

*

Гутару з дзядзькам Іванам гадоў 73. Дзядзька Іван добра памятае царскія часы, і пры яго дапамозе імкнуся пранікнуць у свет адчування і разумення дарэвалюцыйнага селяніна, зразумець яго дзіўную часам логіку. Вось хаця б валы. Чаму сяляне праз цэлыя стагоддзі аралі валамі, калі адначасова гадавалі коні і калі канём значна хутчэй арэцца?

— Адным канём жа не будзеш араць, — тлумачыць дзядзька Іван, — больш як па адным кані сяляне тады не мелі.

— Суседзі маглі аднак спрагацца, так як робяць гэта цяпер.

— А хто ж яго ведаў у той час, што можна спрагацца, што можна араць коньмі? Людзі ніколі гэтага не бачылі і не ведалі.

Вось менавіта: не бачылі і не ведалі. Ізаляцыя старой вёскі, яе замкнутасць у адвечнай традыцыі была адной з прычын сялянскага кансерватызму. Праз доўгі час нікому і ў галаву не прыходзілі навінкі, якія не прайшлі праз сіта старыны, не былі выпрабаваны дзядамі і прадзедамі.

(Працяг на стар. 4)

